НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

# И матом не ругнёшься...

Кажется, мы должны уже к этому привыкнуть! Едва ли не каждый день в Беларуси растут цены. Причем на все. Еще недавно конверт по Беларуси стоил 1200 рублей, сейчас — 1500, конверт в Россию стоил 5700 рублей, сейчас — 6500. Отстала подошва в туфлях, зашел в мастерскую, оказывается, подклеить ее стоит 20 тысяч рублей.

Раньше пенсионерам давали талоны на бесплатное протезирование зубов. Сейчас только за деньги, депутаты бессовестно у нас эту льготу отобрали. В прошлом году за два протеза я отдал 400 тысяч рублей, а 30 мая этого года пошел оплачивать протезирование одного зуба в областной стоматологической поликлинике и заплатил уже 435 тысяч рублей. Я понимаю, что цены выросли. Но не думал, что в 2 раза!

Недавно снова схватила зубная боль, пришлось удалить зуб, и врач рекомендует вставить протез и мост. Отказался. Жене 73 года, ей тоже надо ставить несколько протезов. Но где нам взять столько денег?!

В Беларуси у простых людей нищенские пенсии, но меня поразили зарплаты молодых медсестер в медучреждениях Витебска — 1 миллион 300 тысяч рублей. Поинтересовался зарплатой почтовых работников — 1 миллион 500 тысяч рублей. Выходит, что 500 долларов зарплаты — это не более чем популистский ход. Хотя сейчас за 500 долларов едва ли купишь треть того, что мог купить на эту сумму в 2009 году.

В демократических странах люди протестуют против снижения жизненного уровня, выходят на площади, стучат в кастрюли и т.д., и т.п. У нас же народ потуже затягивает пояса, потому что если кто-то постучит в кастрюлю, то окажется в отделении милиции за то, что ругался матом...

**Тимофей Иванович МАКАРЕНКО.**

*Витебск.*



ИЗ ПИСЬМА

## ...А про отцов вообще забыли

Не следует под одну гребенку отправлять на пенсию женщин, родивших одного, двух, трех, четырех и более детей.

Нужно подходить к решению этой проблемы дифференцированно. Например, для женщин, родивших одного ребенка, делать скидку один год, двоих — два, троих — три года и так далее. А на бездетных женщин такая льгота, считаю, не должна распространяться вообще.

Кроме этого, следует иметь в виду, что дети имеют и отцов, которых закон упорно не замечает, как будто они здесь ни при чем. А их нужно было бы как-то поощрять.

**Степан Иванович МАТИЕК, минчанин.**

ПОСЛЕСЛОВИЕ

## Не повезло?

На днях в минском Дворце спорта закончились финальные бои 40-го чемпионата Европы по боксу. К сожалению, среди чемпионов континента наших земляков нет!

Чего же добились на домашнем ринге наши мастера кожаной перчатки? Они смогли завоевать одну серебряную и три бронзовые медали. Вазген Сафарьянц (до 60 кг) по праву взял "серебро" и, к слову, все свои поединки провел на довольно хорошем техническом и физическом уровне. "Бронза" у Павла Костромина (до 69 кг), Сергея Новикова (до 81 кг) и Виктора Зуева (свыше 91 кг).

На мой взгляд, всем троим не хватило общей физической и специальной выносливости, чтобы сделать еще один шаг вперед. А может? и два...

Были ли у наших боксеров шансы выступить лучше? Считаю, что были. Но обидное поражение Сергея Корнеева их перечеркнуло. Бывший министр спорта Беларуси А.Григоров (а он специалист в боксе) сказал, что Сергей проиграл все три раунда. Так что и обвинения в адрес судей отпадают. Лично я считаю Сергея самым одаренным и перспективным среди наших боксеров, но, видимо, рано он решил, что поймал Бога бокса за бороду. В первую очередь спортсмену и его личному тренеру нужно сделать из этого поражения правильные выводы и не повторить ошибки на следующем чемпионате мира.

Да, очередной чемпионат Европы ушел в историю. У нас есть четыре медали, но кто из их обладателей способен пройти тернистый путь до Олимпиады в Бразилии? Все очередные чемпионаты Европы и мира мы должны рассмотреть только в этом ракурсе!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

ВОСТРЫ ПОГЛЯД

# Чаму ў нас няма месца незалежнаму і палітычна актыўнаму грамадзяніну?

*Хутка ў Беларусі стартуе чарговая палітычная кампанія — "выбары" ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. На дадзены момант ужо тры апазіцыйныя структуры ("Гавары праўду!", рух "За свабоду" і Партыя БНФ) агучылі свой намер актыўна ўдзельнічаць у "змаганні за дэпутацкія мандаты". Не буду засяроджвацца на тым, што "змагацца" яны збіраюцца ў сітуацыі адсутнасці ў Беларусі самога інстытута празрыстых, адкрытых і сумленных выбараў. Але трэба адзначыць вельмі важную рэч: свой удзел у мясцовых "выбарах" яны разглядаюць як пляцоўку да прэзідэнцкай кампаніі. Але ж мясцовае самакіраванне — гэта асобная і да таго ж вельмі складаная тэма. Тым больш што Беларусь фактычна ці не адзіная краіна Еўропы, дзе стан з мясцовым самакіраваннем проста катастрафічны. Больш таго — самакіравання проста не існуе, а ўся ўлада сканцэнтравана ў лукашэнкаўскай вертыкалі.*

## Рэальная ўлада і кантроль за фінансавымі сродкамі

Напрыканцы 2009 года напярэдадні чарговых мясцовых выбараў (прайшлі ў студзені 2010 года) улады ініцыявалі ўнясенне змяненняў у Выбарчы кодэкс. Самым істотным і сапраўды важным у прапанаваным для зацвярджэння праекце стала даволі значнае (да 25% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання) зніжэння лічбы яўкі, неабходнай для фармальнага прызнання выбараў. Такім чынам, улады дэ-факта прызналі неэфектыўнасць працы мясцовых Саветаў дэпутатаў усіх узроўняў. Нават добра адладжаная машына фальсіфікацый на чале са спадарыняй Ярмошынай і высілкі лукашэнкаўскіх прапагандыстаў ужо не могуць пераканаць людзей у патрэбнасці і аўтарытэце гэтых марыянеткавых дэкарацыйных структур.

У 1996 годзе ў выніку праведзенага Лукашэнкам і яго камандай сумніўнага рэферэндуму Беларусь стала зусім іншай дзяржавай. Усе ўладныя паўнамоцтвы былі перададзены прэзідэнту, абраны народам парламент — Вярхоўны Савет — быў гвалтоўна разагнаны. Суды ўсіх узроўняў былі падпарадкаваныя лукашэнкаўскай адміністрацыі.

Такі ж незайздросны лёс напаткаў і органы мясцовага самакіравання. Былі адменены наўпроставыя выбары кіраўнікоў тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак (гарадоў і раёнаў): абраных жыхарамі мэраў змянілі прызначаныя Лукашэнкам старшыні гар- і райвыканкамаў. Была пабудавана цалкам адарваная ад насельніцтва сістэма вертыкалі, завязаная на аднаго чалавека. Мясцовыя Саветы (гарадскія і раённыя) засталіся, але былі пазбаўлены ўсіх паўнамоцтваў. Адзінае, што ім пакінулі, — гэта права зацвярджаць мясцовыя бюджэты. Але ж трэба ўлічваць тое, што ў мясцовыя Саветы з-за адсутнасці сумленных і празрыстых выбараў трапляюць (за вельмі рэдкім выключэннем) выключна паслухмяныя і падкантрольныя вертыкалі людзі, якія нават падумаць не могуць пра тое, каб пайсці супраць выканкама.

Абсалютная большасць жыхароў любога раёна Гомельшчыны добра ведае, што за вырашэннем любой надзённай праблемы — ад рамонту даху да месца для дзіцяці ў садку — трэба звяртацца да прызначаных Лукашэнкам чыноўнікаў райвыканкама, а не да дэпутатаў райсавета. Здаровая логіка шараговых беларусаў падказвае ім, што праблемы можа вырашыць толькі той, хто мае рэальную ўладу і кантроль за фінансавымі сродкамі, адным словам, лукашэнкаўская вертыкаль. І гэта заканамерны вынік палітыкі рэжыму па знішчэнні мясцовага самакіравання і грамадзянскай актыўнасці ў краіне.

Адсюль і надзвычай нізкая яўка выбаршчыкаў на мясцовых выбарах, і поўная адсутнасць канкурэнцыі ў змаганні за дэпутацкае крэсла. Праца ў мясцовым Савеце ўспрымаецца большасцю саміх дэпутатаў як цяжкая і непрыемная павіннасць, якую трэба выконваць, каб дагадзіць начальству. У выніку большасць беларусаў наўрад ці ведаюць пра існаванне такога "органа ўлады", а калі і ўспомняць пра райсавет, то прозвішча дэпутата ад сваёй акругі стопрацэнтна не назавуць. Ды і навошта ведаць прозвішча чалавека, які чатыры гады нічым не займаецца, праціраючы штаны на рэдкіх пасяджэннях, дзе аднагалосна зацвярджаюць усе праекты выканкама?..

На апошніх мясцовых выбрах (у 2010 годзе) у Калінкавіцкі раённы Савет дэпутатаў спрабавала трапіць прадстаўніца дэмакратычных сіл. Падчас збору подпісаў за сваё вылучэнне кандыдатам яна праводзіла своеасаблівае міні-апытанне. Высветлілася, што за выключэннем некалькіх чалавек ніхто з жыхароў дадзенай акругі не толькі не ведаў прозвішча свайго мясцовага дэпутата і яго кантакты, людзі нават не ведалі, што гэтага чалавека яны ж як быццам і "абралі" на мінулых выбарах. Я ўжо не кажу пра такую рэч, як справаздачы мясцовых дэпутатаў перад выбаршчыкамі. І гэта зразумела. Бо як праводзіць такія справаздачы, калі дэпутаты нават цьмяна ўяўляюць, ад якой акругі яны былі "абраныя". Дзе ж тут ведаць пра праблемы сваіх выбаршчыкаў, а тым больш займацца іх вырашэннем, назаляючы раённаму начальству! Ім гэта трэба?

## Еўрапейскі досвед і беларуская рэальнасць

Тым часам досвед пераўтварэнняў ва ўсіх без выключэння краінах Усходняй Еўропы паказвае, што паспяховыя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя рэформы адбываліся там на падмурку моцнага і эфектыўнага мясцовага самакіравання. І гэта цалкам вытлумачальная рэч.

Бо пабудаваць сучасную, канкурэнтаздольную ва ўсіх адносінах і камфортную для жыцця краіну могуць толькі ініцыятыўныя асобы з высокім узроўнем грамадзянскай і асабістай самасвядомасці. А тут без мясцовага самакіравання ніяк не абысціся.

Ну не можа нават самы добры начальнік ведаць усе праблемы і болевыя кропкі асобна ўзятага двара, вуліцы ці мікрараёна. Тым больш што ва ўмовах Беларусі ён і не будзе імкнуцца гэтага рабіць. А навошта? Яго ж не мясцовыя жыхары выбіраюць, а прызначае больш высокі начальнік з абласнога цэнтра ці ўвогуле з Мінска. Таму ён і думае, як дагадзіць свайму босу, а тут пад нагамі прасіцелі боўтаюцца са сваімі праблемамі. Ён жа ад іх ніяк не залежыць! Таму і здараюцца сітуацыі, калі дзеля вырашэння самага простага пытання (асфальтавання 50 метраў дарогі ці ўсталявання ліхтара) беларусы пішуць аж у Адміністрацыю прэзідэнта. Для краін Еўропы гэта сапраўдны нонсэнс. У еўрапейскіх краінах цэнтральная ўлада не толькі не будзе займацца такімі праблемамі, яна проста не мае на гэта права, бо будзе парушаны падзел паўнамоцтваў з мясцовым самакіраваннем.

Па-першае, ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы, якія пайшлі па шляху дэмакратыі і ўкаранення стандартаў Еўрасаюза, мясцовыя прадстаўнічыя органы (аналагі нашых мясцовых Саветаў) валодаюць рэальнай уладай і цалкам кантралююць мясцовую выканаўчую ўладу (аналагі нашых выканкамаў), якая выбіраецца ці наўпрост мясцовымі жыхарамі, ці самімі дэпутатамі.

Па-другое, менавіта мясцовыя выбары з'яўляюцца ў Еўропе найбольш канкурэнтнымі і прыцягваюць найбольшую ўвагу выбаршчыкаў. Бо менавіта ад мясцовай улады залежыць і памер мясцовых падаткаў, і добраўпарадкаванне, і ўмовы вядзення бізнесу, і многае-многае іншае. Мясцовыя выбары — гэта і праверка для ўсіх буйных палітычных партый і рухаў. Калі яны правальваюцца на мясцовых выбарах, то, значыць, яны не здолелі апраўдаць чаканні грамадзян, не здолелі рэалізаваць свае праграмы на лакальным узроўні. Таму разлічваць на падтрымку падчас агульнадзяржаўных выбарчых кампаній, хутчэй за ўсё, таксама не давядзецца.

Па-трэцяе, мясцовае самакіраванне ў Еўропе кантралюе і распараджаецца пераважнай большасцю фінансавых сродкаў, якія акумулююцца на мясцовым узроўні. Спрыяе гэтаму тое, што большая частка падаткаў, якія плацяць суб'екты той ці іншай мясцовасці, трапляе адразу непасрэдна ў мясцовы бюджэт. У Беларусі ж адбываецца ўсё з дакладнасцю да наадварот. Спачатку Мінск забірае амаль усе грошы ва ўсёй краіны, а потым вырашае, каму і колькі даць. Таму ў Еўропе проста апрыёры немагчымы сітуацыі, якія ў нас трапляюцца ці не на кожным кроку. Напрыклад, вар'яцкая, нічым не абгрунтаваная праграма пабудовы лядовых палацаў у маленькіх раённых цэнтрах, дзе проста процьма надзённых праблем, якія не вырашаюцца гадамі: адсутнасць нармальных транспартных зносін з навакольнымі вёскамі, жахлівы стан медыцыны, развал у камунальнай гаспадарцы і гэтак далей.

## Пустыя размовы

Вось і атрымліваецца, што на сённяшні дзень у Беларусі мясцовага самакіравання як такога проста не існуе. Людзей мэтанакіравана пазбавілі права быць гаспадарамі на сваёй зямлі — у сваёй вёсцы, горадзе, раёне, вобласці. Усё ў дзяржаве кантралюецца аграмадным апаратам лукашэнкаўскай бюракратыі. А бюракратыя ніколі не будзе эфектыўным суб'ектам ні эканамічнай, ні сацыяльнай мадэрнізацыі, пра якую так часта ў апошні час кажа сам Лукашэнка.

Бюракратыя ў беларускіх умовах заўсёды будзе працаваць выключна ў рэжыме самазахавання. Гэта дыктуецца самой прыродай аўтарытарнага рэжыму, дзе няма месца незалежнаму і палітычна актыўнаму грамадзяніну.

Таму ўсе размовы пра тое, што рэжым Лукашэнкі здольны мадэрнізаваць эканоміку і сферу сацыяльнага забеспячэння, ды яшчэ і правесці палітычную рэформу, дэлегаваўшы дадатковыя ўладныя паўнамоцтвы парламенту і мясцоваму самакіраванню, цалкам утапічныя.

Менавіта стварэнне моцнага і эфектыўнага самакіравання, а ў больш шырокім сэнсе аб'яднанне грамадзян на лакальным узроўні для абароны сваіх праву (эканамічных, сацыяльных, нацыянальных, палітычных) будзе азначаць пачатак канца ўсёй аўтарытарнай сістэмы.

**Дзяніс РАБЯНОК, актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

*г.Калінкавічы.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Павучыцеся ў палякаў!

У "Народнай Волі" №43 (3784) ад 04.06.2013 г. змешчаны адказы на пытанні газеты амбасадара Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешака Шарэпкі пад агульным загалоўкам **"Польшча выбрала свабоду, што з'явілася моцным падмуркам сённяшніх поспехаў"**.



У адказах амбасадара Польшчы надзвычайна важнае значэнне прыдаецца зменам, якія адбываліся ў краіне ў 1989 годзе і членству польскай дзяржавы ў Еўрасаюзе, таму, што яны спрыялі паспяховаму пераадоленню наступстваў апошняга эканамічнага крызісу.

Вопыт рэфармавання польскай эканомікі прадстаўляе інтарэс для беларускай грамадскасці, бо эканамічная сітуацыя ў нашай краіне нагадвае стан эканомікі Польшчы 1989 года, а асноўная задача польскай дзяржавы таго часу — вырашэнне эканамічных праблем — застаецца актуальнай для Беларусі ў цяперашні час.

У 1989 годзе эканоміка Польшчы з састарэлай матэрыяльна-тэхнічнай базай, вялікай матэрыяла- і энергаёмістасцю прамысловасці была неэфектыўнай. Яшчэ больш ускладняла становішча велізарная знешняя запазычанасць, набірала абароты гіперінфляцыя (звыш 500% у 1990 г.).

Вырашэнне складаных эканамічных праблем тагачасны міністр фінансаў Польшчы пачаў з рэалізацыі так званага плана Бальцаровіча.

Планам прадугледжваўся пераход ад адміністрацыйна-каманднай эканомікі, заснаванай на дзяржаўнай уласнасці і груваскай бюракратычнай сістэме кіравання, да рынкавай эканомікі, аснову якой складаў прыватны сектар з еўрапейскімі кіраўніцкімі традыцыямі.

Планавалася лібералізаваць унутраныя цэны, павялічыць экспарт і імпарт, стабілізаваць курс злотага і забяспечыць яго канвертацыю, ажццяўляць кантроль за заробкавай і фінансавай палітыкай прадпрыемстваў утрыманнем вышэйшай за інфляцыю працэнтнай стаўкі па ўкладах у банках.

Сярод запланаваных сістэмных пераўтварэнняў асабліва важнае значэнне набыла змена структуры ўласнасці, пашырэнне сферы самастойнасці прадпрыемстваў, стымуляванне ўнутранай і знешняй канкурэнцыі.

Найбольш складанай аказалася прыватызацыя і рэструктурызацыя асобных галін цяжкай прамысловасці стратэгічнага дзяржаўнага значэння, буйных прадпрыемстваў металургічнай, хімічнай, машынабудаўнічай, энергетычнай, газавай, здабываючай прамысловасці і транспарту.

З цягам часу эканамічная сітуацыя ў Польшчы стабілізавалася, а сама эканоміка стала адкрытай для свету. Была рэфармавана банкаўская сістэма і грашова-крэдытная палітыка, сфарміраваўся рынак капіталу і працы.

Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці, утварэнне рыначнай эканомікі і радыкальнае змяншэнне бюджэтнага дэфіцыту неўзабаве пачалі прыносіць плён. У 2009 годзе прыватны сектар краіны вырабляў ужо амаль 75% валавой прадукцыі, забяспечваючы працай 70% працаздольнай часткі насельніцтва, павысілася канкурэнтаздольнасць польскіх тавараў, а ўзровень інфляцыі склаў менш за 4%. Поспех польскіх рэформ канчаткова стабілізаваў курс злотага, схіліў заходнія фірмы да інвестыцый у польскую эканоміку.

Каб замацаваць змены ў структуры ўласнасці і забяспечыць адпаведнае функцыянаванне рынку, неабходна было сфарміраваць новую нарматыўна-прававую базу. Гэты працэс завяршыўся напрыканцы 90-х гадоў, калі былі прыняты законы аб свабодзе гаспадарчай дзейнасці, прынцыпах выдзялення дзяржаўнай дапамогі і яе маніторынгу. У новых заканадаўчых актах былі ўлічаны прававыя нормы Еўрасаюза ў сферы свабоднага руху тавараў (прадугледжвалася дзяржаўная сістэма ацэнкі якасці, адказнасць вытворцы за вырабы і бяспечнасць прадукцыі).

У 2001 годзе пачаў дзейнічаць новы закон аб прадпрыемствах. Ён цалкам адпавядаў нарматывам Еўрасаюза аб прынцыпах рэгістрацыі і функцыянавання гаспадарчых суб'ектаў.

Дзякуючы паслядоўным зменам нарматыўна-прававой базы зніклі апошнія адрозненні ў падыходзе да гаспадарчых суб'ектаў — цяжкая спадчына сацыялістычнай эканомікі. Сёння ў Польшчы не мае значэння форма ўласнасці, велічыня, сфера эканамічнай дзейнасці прадпрыемства ці нацыянальнасць яго ўладальніка.

Поспех рэформ дазволіў скараціць адлегласць паміж узроўнем эканамічнага развіцця Польшчы і Еўрасаюза.

Шкада, што Беларусь не выкарыстоўвае павучальны вопыт Польшчы.

**Іван ЯФІМЕНКА.**

*Мінск.*

*Яўген ГУЧОК*

## На кончыку языка

*Дзе душы —*
*Абязлюджаны,*
*Там целы —*
*Абвярблюджаны.*

***

*У яго адна*
*Турбота:*
*Незаўважным быць —*
*За плотам.*

***

*У Беларусі той*
*Квітнее,*
*Ад каго яна*
*Гібее.*

***

*Ніводнай путнай думкі ў галаве*
*І пару слоў звязаць не можа,*
*Але з літаратуры ён жыве*
*Ды і кіруе ёй. О Божа!*

***

*Лапоча-сакоча —*
*І сам не ведае, чаго хоча,*
*Але да грантаў і бонусаў*
*Ён занадта — ахвочы.*

***

*Краў не там,*
*Не з тым дзяліўся —*
*І на шконцы*
*Пасяліўся.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Камбайнерам — легкавушкі

***Нягледзячы на тое, што гэты год аб'яўлены Годам беражлівасці, можна не сумнявацца, што "Дажынкі" адменены не будуць. І мяне цікавіць: а якія ў гэтым годзе будуць прызы на "Дажынках"?***

**Вольга Малашанка, Мінск.**

Узнагароды за перамогу ў сельгасспаборніцтве вызначаны пастановай Савета міністраў. Калі ў яе не будуць унесены змены, то сёлета падарункі запланаваны такія.

Вобласць, якая перамагла ў рэспубліканскім спаборніцтве, атрымае 240 мільёнаў рублёў.

Раён, які перамог у абласным спаборніцтве, — 140 мільёнаў рублёў.

Для старшых камбайнераў збожжа- і кормаўборачных камбайнаў выдзелена 30 ганаровых дыпломаў з легкавымі аўтамабілямі і грашовымі прэміямі. Шэсць пераможцаў атрымаюць па ганаровым дыпломе і легкавым аўтамабілі. За другое месца акрамя дыпломаў прадугледжаны прэміі па 20 мільёнаў рублёў, за трэцяе — па 8 мільёнаў.

Старшыя камбайнеры маладзёжных экіпажаў (да 31 года) таксама будуць змагацца за прызавыя аўтамабілі.

Пераможцаў сярод вадзіцеляў, якія возяць збожжа ад камбайнаў, чакае першая прэмія ў 15 мільёнаў рублёў.

Аператары машыннага даення, спецыялісты па адкорме буйной рагатай жывёлы, абслугоўванні свінаматак з парасятамі і курэй-нясушак пазмагаюцца за шэсць ганаровых дыпломаў з грашовымі прэміямі ў 28 мільёнаў рублёў кожная; брыгадзіры малочна-таварных ферм — за грашовыя прэміі па 3,7 мільёна; лепшая даярка і даглядчык-пастух у кожным раёне атрымаюць па 3,5 мільёна рублёў.

Урад таксама даручыў БРСМ па ўзгадненні з Мінсельгасхарчам зацвердзіць палажэнне аб парадку арганізацыі і правядзення Рэспубліканскага сямейнага сельхозпраекта "Уладар сяла". Пераможцы гэтага праекта ў кожнай вобласці атрымаюць прэміі па 10 мільёнаў рублёў.

МНЕНИЕ

## Как нужно отмечать 3 июля...

Меньше трех недель осталось до проведения в Минске парада по случаю освобождения города от немецких захватчиков. А.Лукашенко сказал, что он должен быть организован на самом высшем уровне, иначе лучше совсем не проводить. И правильно, лучше совсем не проводить. Что, у нас с блеском идут дела? Или все обстоит на самом высоком уровне? Нет, нет и еще раз нет.

Да и не круглую дату будем отмечать. А значит, не нужно проводить парад. Лучше эти деньги не на показуху, а на стоящее дело потратить. На модернизацию производства того же завода, который настолько изношен, что на нем опасно работать и нельзя заработать на жизнь, но с которого рабочие не могут вырваться.

Или вернуть людям потерянные советские вклады, ведь государство ограбило многих освободителей.

А праздник можно отметить концертом и народными гуляньями.

День освобождения я советую отметить также освобождением из тюрем невинных людей, сидящих за то, что боролись за права человека. Мы 18 лет проводим парады, а давайте честно скажем: свободы-то все меньше и меньше.

**З.Р.СЕНЬКО.**

*г.Мозырь.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 ЧЭРВЕНЯ 2013 г.

ПАМЯЦЬ

# «Я — просты беларус»

## 10 гадоў таму не стала Васіля Быкава



Мастак Віктар КРУК.

Іду па беразе Дубровенскага вадасховішча, што побач з Раўбічамі, і каля дачы Алеся Адамовіча заўсёды прыпыняю крок. Гляджу скрозь сетку агароджы, ці не відаць сярод зеляніны дрэў і кустоўя Веры Сямёнаўны альбо Наташы. І памяць пачынае адкручваць гады, быццам іх не было ўвогуле, быццам тое, што памятаецца, было ці не ўчора...

Быкаў прыехаў сюды, у дачны пасёлак Акадэміі навук Беларусі, на сваёй "Волзе". Адамовіч, ужо дырэктар маскоўскага кінаінстытута, калі ўлетку наязджаў у Мінск, імкнуўся абавязкова пабываць на дачы. Краявід з дома на пагорку, які займелі яны разам з Віктарам Каваленкам, казачны — вялізная водная прастора і высокі лес на процілеглым беразе.

Час быў няпэўны — пачатак 1990-х. Адразу пасля скону Савецкага Саюза. Было відаць, што сябры бачыліся ўжо ў Мінску, але не нагаварыліся. Вядома, што яны не маглі адзін без аднаго. Ахматава неяк заўважыла, што не верыць успамінам, у якіх з стэнаграфічнай дакладнасцю ідзе аповед у стылі "сказаў ён", "адказаў той". Але магу засведчыць, што Адамовіч працягваў бараніць Гарбачова, ставячы яму ў заслугу, што *"не дапусціў крыві".* Цяпер важна, каб не *"разгуляліся нацыянальныя эгаізмы",* каб у новых дзяржавах усталявалася спалучэнне нацыянальнага з сацыяльнымі чаканнямі большасці. Таму вельмі значны зараз голас інтэлігенцыі. Быкаў быў настроены песімістычна. Лічыў, што "ўсё яшчэ можа вярнуцца і ў больш жорсткім выглядзе". Рэвалюцыі як бы і не было. Савецкі Саюз сам сабой паваліўся. А вось Тэрмідор абавязкова будзе. Што да ролі інтэлігенцыі, дык яна схільная свае прыярытэты выдаваць за агульнанародныя. І тут магчымы корань драмы. Ці ж не так было ў Расійскай імперыі?

— Але ж вырасла новае пакаленне! З'явіліся абсалютна непадобныя, што называецца, нябітыя і таму досыць вольныя і духам і ўчынкамі беларусы! — Гэта я паспрабаваў уставіць свае аптымістычныя "пяць капейчын".

Быкаў не пярэчыў. Вядома, з'явілася новая моладзь. Але гэта звычка — усе надзеі на моладзь, якая сама, між іншым, мае патрэбу ў шырокай грамадскай падтрымцы.

Відаць, што гэтыя думкі спелі ў ім. Іх адбітак ёсць і ў мемуарнай кніжцы "Доўгая дарога дадому", якую я зноў перачытаў зусім нядаўна. Вось ён піша: *"Беларускі народ у сваёй масе напрыканцы XX стагодзьдзя меў клопат ня так з праблемай* ***адраджэньня****, як з праблемай* ***выжываньня****. Хоць як-небудзь, хоць з бальшавіцкім рылам, але каб не ператварыцца ў мерцвяка, што ўвогуле было рэальна. Па сутнасьці ішоў працэс паміраньня (ва ўсіх сэнсах), і важна было клапаціцца, як затрымацца на краю пагібелі, а не дбаць пра колішнюю веліч часоў ВКЛ. Народ тое адчуваў інстынктыўна і таму на першых прэзідэнцкіх выбарах у масе сваёй не пайшоў за Пазьняком і БНФ зь іх віртуальным нацыянал-дэмакратызмам..."*

Але разам з тым ён лічыў: *"Ня надта добра, што зь цягам часу высакародная ўвогуле ідэя адраджэньня набыла ў вачох грамадства архаічнае адценьне — не заўсёды зразумелае, а таму і не прымальнае для сучаснага, празьмерна прагматычнага беларуса".*

Дарэчы, сённяшняе перачытванне мемуарнай кнігі Быкава пакідае ўражанне яе нястрачанай актуальнасці. І ёсць безумоўнае адчуванне, што аўтар спяшаўся, быццам ведаў, што час яму адпушчаны нядоўгі. Зразумела, паралель, якую зараз прывяду, можа падацца не зусім карэктнай. Але вось успомнілася аповесць Васілія Гросмана "Усё цячэ". Гэта невялікая рэч менш вядомая, чым славуты раман "Жыццё і лёс". Пісаў яе Гросман спяшаючыся: рак, выкліканы перажываннямі ў сувязі з арыштам рукапісу яго галоўнага твора, рабіў сваю справу. У першых раздзелах падзеі разгортваюцца з уласцівай Гросману шматпланавасцю і эпічнасцю, у апошніх — ужо ідзе амаль што пратакол. Не паспець! Няма часу! А трэба сказаць самае важнае. І апошнія старонкі ўспамінаў Быкава — падаецца мне — прадыктаваныя гэтым жа адчуваннем недахопу часу і імкненнем сказаць істотныя рэчы. На апошняй старонцы дата — сакавік 2002 года. А трохі болей як праз год яго не стала.

Няма намеру азначыць Быкаўскую "Доўгую дарогу дадому" запаветам ці чымсьці накшталт таго. Быкаў і патас — рэчы нясумяшчальныя. І ягоныя словы ў гэтай кнізе: *"Я ня лідэр і не "сумленьне нацыі", я просты, стомлены жыцьцём беларус, які мае толькі адну мэту — застацца сумленным"* — гэта не праява праслаўтай сціпласці. У гэтых словах сутнасць Быкава як асобы. Я не ведаю мемуарнай кнігі, у прадмоўі да якой аўтар выбачаецца перад тымі, каго не ўпамянуў, *"пра каго напісаў мала ці тым болей ня так, як яны заслугоўваюць", "каго засмуціў названымі фактамі або празьмернымі азначэньнямі. Знарок нікога не хацеў пакрыўдзіць".* Гэта ўжо гаворыць хрысціянская душа Быкава. Але ж яна і не дазволіла яму ўхіліцца ад прамога вызначэння зла і яго носьбітаў.

"Доўгая дарога дадому" ўяўляецца не столькі мемуарам, колькі споведзю. Прычым споведзю-самапазнаннем. Бо ягоная дарога дадому аказалася дарогай да сябе самога, да сваёй чалавечай, беларускай сутнасці. Яна сапраўды была доўгай па часе. І вельмі пакручастай. І "просты, стомлены жыццём беларус" — гэта не поза. Тым больш не моўная фігура. Спадзяюся, зразумела, што ягонае *"просты"* не мае нічога агульнага са звыклай праставатасцю. Гэта хутчэй пастэрнакаўская *"неслыханная простота",* але ў якой пануе глыбокае адчуванне свайго зліцця з народам, з якога выйшаў, з роднай зямлёй. Нічога не маю супраць касмапалітычных пачуццяў. Але вось гэтае самае *"зліццё"* — цудоўнае і разам пакутлівае адчуванне — ёсць тое, чаму варта пазайздросціць. Бо не кожнаму дадзена...

Здаецца, пісьменнік, хаця і дужа лаялі яго ў праўладна-"патрыятычнай" крытыцы, быў абвешаны ўсімі высокімі савецкімі рэгаліямі. Але ж тут і хавалася драма — застацца сумленным. Тая ж у рэшце рэшт праблема, якую мелі перад сабой і часам непасрэдна ці падсвядома адчувалі героі яго прозы. Той жа Сотнікаў... Барыс Сачанка, якому рэдакцыя "Полымя" даручыла "давесці" аповесць, параіў усяго толькі ўвесці адзінае ўпамінанне, што Сотнікаў быў камуністам. Але хіба гэта запала ў душу чытача? Ларыса Шапіцько невыпадкова надала пэўным сцэнам у сваім "Узыходжанні" біблійную выразнасць.

Разам з тым не будзем забывацца на тое, што і ў крытыцы, якая лічыла сябе нацыянальнай, рабіліся спробы давесці, што быкаўскія "лейтэнанты" — гэта не беларускае, што толькі са "Знака бяды" пачаўся Быкаў як менавіта беларускі пісьменнік. Тыя крытыкі не хацелі, не маглі бачыць з-за абмежаванасці свайго зроку, што якраз прага захавання сумленнасці, душы чалавечай выявіла ў найбольшай ступені беларускую сутнасць асобы Быкава, ягонага сэрца. Яна ж, гэта прага, паяднала яго з лепшай рускай літаратурай пра вайну і праз тое з сусветнай. Сам Быкаў дакладна разумеў гэта і на звыклы пералік у расійскай крытыцы — "Бондараў, Бакланаў, Астаф'еў, Някрасаў, Быкаў" — адгукаўся так: калі яны так лічаць, то я не супраць. Нацыянальнае для яго не было вышэй за чалавечае. Таму і Сотнікаў, і Пятрок з Сцепанідай — людзі блізкія менавіта сваім чалавечым патэнцыялам.

Калі думаеш пра гэта, разумееш, што Быкаў быў адным з апошніх гуманістаў найноўшага часу. Разам з ім скончылася тая вялікая літаратура, якую называлі "учительной". Далей пайшлі постмадэрнісцкія гульні. Ёсць нейкая невыпадковасць: скончыўся XX век, век найбольшых трагедый у гісторыі чалавецтва і век высокай літаратуры, прасякнутай малітвай за грэшнага чалавека. Пайшла ў дол кніга, культура. Быкаву не было месца ў гэткім свеце. Ці не таму ён бачыў сябе як *"стомленага жыццём беларуса"?*

Апошнія гады яго жыцця — гэта сапраўдная трагедыя... Тое ж выгнанне. Так, ён добраахвотна выехаў за мяжу. Так зрабілі ў часы гітлераўскага панавання Томас Ман і Ліон Фейхтвангер. Але па сутнасці сваёй гэта было выгнанне. Калі не забывацца, як ён любіў Беларусь, як літаральна дыхаў ёю, то можна гаварыць, што яго задушылі, пазбавіўшы магчымасці жыць і працаваць на роднай зямлі. Эміграцыя не надае сілы пісьменніку. А для Быкава гэта ўвогуле была жудасная доля.

Ці можна забыцца на яго тэлефонны званок мне незадоўга да яго ад'езду з Германіі ў Прагу? Голас быў спакойны, але адчувалася змучанасць. Бадзянні па замежжы старога, хворага пісьменніка, славы і гонару нашай культуры, — гэта будзе, ужо запісана ў абвінаваўчы прысуд рэжыму.

Пахаванне Быкава стала мацнейшай дэманстрацыяй беларускага грамадства. Менавіта тады яно пацвердзіла, што жыве, мае сумленне і прынцыпы. Міжволі прыходзіць параўнанне з падзеямі 19 снежня 2010 года. Тады таксама ў цэнтры Мінска было дужа многа людзей, хаця і менш, чым на Быкаўскім пахаванні. Але было адчуванне, што людзі не ведаюць, што ім рабіць, нягледзячы на прысутнасць вядомых лідараў апазіцыі. І тое скончылася вельмі драматычна. Калі ж праводзілі ў апошні шлях Быкава, людзі ведалі, чаму яны прыйшлі да Дома літаратара, чаму адкрочылі пехатой немалую адлегласць па галоўным праспекце да Маскоўскіх могілак. Беларускае грамадства адчувала, што развітваецца з часткай сваёй душы, з лепшымі яе якасцямі, што ўвасабляла асоба Быкава. З ім як бы адыходзілі сумленне, вера, надзея. Памёр апошні ў свеце заступнік за беларусаў, да голасу якога свет не мог не прыслухоўвацца. Але разам з адчуваннем сіроцасці, што так непапраўна абрынулася, было і імкненне паказаць **гэтай уладзе**, з кім мы, на чыім баку. Мёртвы Быкаў ачольваў людзей у гэтым вялікім беларускім паходзе. Можа, гэта было апошняе, што ён здолеў зрабіць для нас, — з'яднаць, паказаць, што мы не пакорнае быдла, што мы яшчэ маем прагу да свабоды. О, каб на той свет прыходзілі звесткі з нашага! Можа, трохі б паменела быкаўскага песімізму.

*"Хацелася яшчэ дажыць да свабоды, ды тое, відаць, марнае памкненьне,* — пісаў ён на апошніх старонках "Доўгай дарогі дадому". — Майму пакаленьню, як і шмат якім папярэднікам, свабоды ня бачыць — хіба наступным..."

І разам з гэтым горкім прызнаннем працягваў разважаць, чаму так сталася. Былі ж *"моманты, калі здавалася, што наша доўгачаканая ісьціна — ўжо побач, трэба яшчэ адно-два намаганьні, і мы будзем мець тое, пра што беларусы марылі доўгія стагодзьдзі. Але назаўтра высвятлялася, што ўсё перамянілася за адну ноч, і наша надзея апыналася адкінутай ў пазаўчарашні дзень. Усё трэба было пачынаць спачатку".*

Сярод традыцыйных адказаў на пытанне, хто ў гэтым вінаваты, канешне, і Масква, якая *"не дае дыхнуць залежным народам",* і Захад, якому *"даражэй адносіны з імпэрскай Масквой, чым зь няпэўнай Беларусьсю".* Але *"найболей вінаваты мы самі, бо яшчэ не ўсьвядомілі боскай каштоўнасьці свабоды і незалежнасьці".* Быкаў упэўнены: **"Народы, якія на пачатку трэцяга тысячагодзьдзя ад Хрыстовага нараджэньня не засвоілі гэтае ісьціны, рызыкуюць не засвоіць яе ніколі. І навек застацца рабамі — найперш уласнае цемры і ляноты".**

Што значыць гэтае Быкаўскае папярэджанне? Як яго ўспрымаць сёння, праз дзесяць гадоў пасля таго, як адышоў аўтар гэтых суровых слоў? Чаго ў іх больш — горкай канстатацыі, што беларусы "не засвоілі" відавочнай ісціны пра "боскую каштоўнасьць свабоды і незалежнасьці"? Ці закліку не застацца рабамі, пераадолець уласную цемру і ляноту? Хутчэй за ўсё ёсць і тое і другое. Быкаў пакінуў нам выбар.

**Сямён БУКЧЫН.**







Так беларускі народ развітваўся з Васілём Быкавым. Фота photo.bymedia.net

ОФИЦИАЛЬНО

# Сколько зарабатывают белорусские послы

*Правительство Беларуси усовершенствовало условия оплаты труда руководителей дипломатических представительств Беларуси.*

Соответствующее постановление правительства №482 датировано 12 июня. Оно вносит изменения в постановление Совмина №990 от 18 августа 2004 года.

Данным документом определено, что "размеры должностных окладов в иностранной валюте чрезвычайных и полномочных послов Республики Беларусь и постоянных представителей Республики Беларусь при международных организациях рассчитываются на основании индексов стоимости жизни в городах мира по отношению к г.Нью-Йорку, принимаемых Комиссией ООН по Международной гражданской службе".

В итоге послам прописали следующие оклады.

Самые высокие зарплаты у посла Беларуси в Японии (4080 евро), Венесуэле (3980), а также у главы постоянного представительства Беларуси при отделении ООН и других международных организациях в Женеве (Швейцарская Конфедерация) — 3910 евро.

Самый низкий заработок у руководителей дипмиссий в Болгарии, Иране, Румынии — 2750 евро.

В этих пределах зарабатывает большая часть белорусских дипломатов. В частности, работа во Франции оценена в 3500 евро, в России и Бразилии — 3670, в Великобритании и Северной Ирландии — 3600, США и Азербайджане — 3400, Китае и Нидерландах — 3260, Латвии и Объединенных Арабских Эмиратах — 3230, Узбекистане и Индонезии — 3200, Германии и Ираке — 3160, Израиле и Туркменистане — 3090, Литве, Турции и Казахстане — 3060, Таджикистане — 3030, Кыргызстане и Сербии — 2990, Украине, Польше и Венгрии — 2960, Армении, Индии, Молдове — 2920, Аргентине — 2890, во Вьетнаме — 2860 евро.



**Посол Беларуси в Великобритании и Северной Ирландии, посол Беларуси в Ирландии (по совместительству) Сергей Алейник вручил верительные грамоты Королеве Великобритании Елизавете II. 5 июня 2013 года.**

Дипломаты могут получать надбавки. Например, за то, что являются по совместительству послами в нескольких странах, — плюс 10 процентов от оклада по первому совместительству и 5 процентов по каждому последующему, но не более 30 процентов от оклада. Если на содержании у посла есть неработающий и совместно проживающий с ним за границей супруг (супруга), то полагается набавка в размере 20 процентов от оклада. У рядовых работников посольства за совместное проживание надбавка меньше — 10 процентов. Плюс полагается доплата за несовершеннолетних детей — 5 процентов на каждого ребенка.

Кроме того, полагается надбавка в размере 20 процентов от оклада за работу в стране с тяжелыми климатическими условиями. В перечень попали Аргентина, Бразилия, Венесуэла, Вьетнам, Египет, Израиль, Индия, Индонезия, Ирак, Иран, Катар, Китай, Корея, Куба, Ливия, Монголия, Нигерия, Объединенные Арабские Эмираты, Пакистан, Сирия, Эквадор, Эфиопия и ЮАР.

ПО ШАПКЕ!

# Джипы и купола им подавай...

*На заседании Совета министров Михаил Мясникович обратился к министру энергетики Владимиру Потупчику с требованием освобождаться от подчиненных, которые транжирят государственные деньги. Таких фактов предостаточно.*

Вместо ремонта оборудования "Минскэнерго" потратил больше 100 тыс. долларов на покупку джипа для вышестоящего "Белэнерго". "Могилевэнерго" купил "Ауди" более чем за 50 тыс. долларов. Еще дальше пошел "Брестэнерго": имея закредитованность в 3—4 трлн рублей, тратит почти 1 млн долларов на возведение купола над своим офисом, устраивает фонтан, есть и другие излишества.

СТАЛА ВЯДОМА...

# Справу аб порнаскандале хутка накіруюць у суд

*Былому супрацоўніку "БелМузТБ", які запусціў у эфір парнаролік, не патрабуецца псіхіятрычнае лячэнне. Да такой высновы прыйшлі эксперты клінікі, дзе той праходзіў адпаведную экспертызу. Цяпер 28-гадовы хлопец знаходзіцца за кратамі і чакае суда. Расследаванне гэтай справы завершана.*

Нагадаем, што супрацоўніка музычнага тэлеканала затрымалі ў сярэдзіне красавіка па падазрэнні ў публічнай дэманстрацыі відэаматэрыялаў парнаграфічнага зместу ў прамым эфіры тэлеканала.

*"У дачыненні да абвінавачанага абрана мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту,* — паведаміў "Народнай Волі" афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску **Аляксандр Герасімаў**. — *Падчас следства абвінавачаны прызнаў віну цалкам, пры гэтым растлумачыў, што злачынныя дзеянні здзейсніў па ўласнай ініцыятыве, мэтанакіравана, загадзя іх спланаваўшы. Абвінавачаны актыўна супрацоўнічаў са следствам. Расследаванне завершана. Крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд".*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЖАХ!

# 16-гадовыя спалілі пенсіянера ў яго аўтамабілі

Труп пенсіянера 1945 года нараджэння, жыхара Шклова, быў знойдзены ў лесе каля вёскі Гуркавішча Шклоўскага раёна ў яго аўтамабілі.

Як высветліла следства, яго 11 чэрвеня ў сварцы пасля сумеснай п'янкі зарэзалі тры сабутэльнікі. Пасля чаго труп вывезлі ў лес і спалілі.

У забойстве падазраюцца: хлопец 1994 года нараджэння, раней судзімы за прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання і крадзяжы, жыхар вёскі Сакалова Горацкага раёна, а таксама двое мясцовых жыхароў (абодва 1997 года нараджэння).

## ВІНШУЕМ!



### Аляксей ГРЫШЫН
*18 чэрвеня — 34 гады*

Беларускі фрыстайліст.

Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь.

На XXI зімовых Алімпійскіх гульнях заваяваў першы залаты медаль у гісторыі Беларусі за час выступленняў на зімовай Алімпіядзе. Шматразовы бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў, неаднаразовы пераможца чэмпіянатаў і этапаў кубка свету.



### Леанід КАРАВАЙКА
*19 чэрвеня — 59 гадоў*

Беларускі дыпламат, першы генеральны консул Беларусі ў Амерыцы.

На дыпламатычную службу ў Міністэрства замежных спраў БССР прыйшоў у 1988 годзе. У 1993 годзе быў прызначаны першым кіраўніком першай беларускай консульскай установы ў краінах Амерыкі.

З 1997-га па 1998 год працаваў у місіі АБСЕ ў Босніі і Герцагавіне. З 21 красавіка 2001 года да 24 мая 2007 года быў Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку.



### Людміла БЯЛЯЕВА
*20 чэрвеня — 65 гадоў*

Беларускі педыятр, доктар медыцынскіх навук, прафесар.

З 1 лютага 1979 года працуе ў Беларускім інстытуце ўдасканалення ўрачоў.

Апублікавала больш за 200 прац, аўтар некалькіх вынаходніцтваў, сааўтар 8 кніг, прысвечаных актуальным праблемам педыятрыі.



### Гаўрыла ВАШЧАНКА
*20 чэрвеня — 85 гадоў*

Народны мастак Беларусі. Заслужаны дзеяч мастацтваў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Стварыў партрэты пісьменнікаў, асветнікаў, дзяржаўна-палітычных дзеячаў Беларусі — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Канстанціна Астрожскага, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і іншых. Персанальная карцінная галерэя Вашчанкі з 2002 года дзейнічае ў Гомелі.



### Сяргей КАВАЛЁЎ
*20 чэрвеня — 50 гадоў*

Доктар філалагічных навук, прафесар.

Быў адным з кіраўнікоў таварыства "Тутэйшыя", сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выдаў зборнікі "Як пакахаць ружу" і "Партрэт шкла". Аўтар навуковых манаграфій, падручніка, адзін з сааўтараў акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры ХІ—ХІХ стагоддзяў" (т.1, 2006).



### Валянцін ГОЛУБЕЎ
*21 чэрвеня — 58 гадоў*

Беларускі гісторык і палітык.

Доктар гістарычных навук.

З 1990-га па студзень 1996 года — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Адзін з аўтараў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Быў сябрам Канстытуцыйнай камісіі.

Жанаты, мае двух сыноў і ўнучку.



### Анатоль КАЛІНІН
*21 чэрвеня — 54 гады*

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі.

З 1989 года ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У 1993 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці "механізацыя сельскай гаспадаркі". У 2008 годзе скончыў Акадэмію кіравання пры прэзідэнце па спецыяльнасці "дзяржаўнае і мясцовае кіраванне".

З 2009-га па 2010 год памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па Мінску.

З 2010 года — намеснік прэм'ер-міністра Беларусі.



### Кася КАМОЦКАЯ
*22 чэрвеня — 50 гадоў*

Беларуская музыка, бард.

У 1985 годзе скончыла гістарычны факультэт БДУ, у 1998 годзе — аспірантуру. Удзельнічала ў запісе музычных складанак "Народны альбом", "Сэрца Еўропы in rock", "Песні свабоды", "Прэм'ер Тузін 2006".

### АД РЭДАКЦЫІ

*Шаноўныя чытачы!*

*Будзем шчырымі: "праляцелі" мы з падборкамі віншаванняў. І ўсё з-за таго, што нельга ахапіць неабдымнае.*

*Чаму павіншавалі з днём народзінаў аднаго і не ўспомнілі другога? А чым гэты чалавек лепшы за іншага?*

*Нямала падобных папрокаў пачулі мы пасля таго, як сталі публікаваць фотападборкі пад рубрыкай "Віншуем!".*

*І сапраўды, нельга ахапіць неабдымнае. Каб і надалей не выклікаць пэўных эмоцый, мы на сённяшняй падборцы ставім кропку. Гэта не азначае, што газета не будзе віншаваць з круглымі і не круглымі датамі вядомых людзей, цікавых субяседнікаў, герояў розных публікацый. Але рабіць гэта будзем, як кажуць, у рабочым парадку.*

## ПОДЫУМ

# *Новая «Міс ЗША» скарыла журы веданнем палітычных рэалій*

*Пераможцай конкурсу прыгажосці "Міс ЗША-2013" стала 25-гадовая Эрын Брэдзі з Канектыкута.*

Дзяўчына скарыла журы белай бліскучай сукенкай і адказам на пытанне аб апошніх рэзанансных рашэннях Вярхоўнага суда ЗША. У выніку яе ўзнагародзілі каронай, а таксама кватэрай у Нью-Ёрку.

Брэдзі будзе прадстаўляць ЗША на конкурсе "Міс Сусвет", які адбудзецца праз паўгода.

Прыгажуня скончыла Цэнтральны ўніверсітэт штата Канектыкут па спецыяльнасці "фінансы" і атрымала дадатковую адукацыю ў галіне крымінальнага права. У цяперашні час працуе старшым бухгалтарам у страхавой кампаніі.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**



## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

*Віктар МАРЦІНОВІЧ:*

# «Калі мяне ў палон не возьмуць чачэнскія тэрарысты, пісаць працяг "Сфагнуму" я не буду»...

*Згодна з данымі "Белкнігі", новы раман Віктара Марціновіча "Сфагнум" стаў самай набываемай беларускай кнігай у краіне. Праўда, звесткі з сайта таямніча зніклі праз некалькі дзён...*

Калі шукаць у Беларусі модных пісьменнікаў, то пачынаць варта з Віктара Марціновіча. Ці з Віці з Аўтаза, як ён сябе назваў напярэдадні прэзентацыі свайго новага рамана "Сфагнум". Бібліяфілы і аматары літаратуры ўпадабалі і новага персанажа, хоць Віця і трымаўся "канкрэтным пацанам". У звычайным жыцці людзі, што завіталі на прэзентацыю "Сфагнуму", ад такіх хлапцоў трымаюца падалей — занадта розныя погляды. Дый моднай мабілы можна недалічыцца пасля такога рандэву.



Магчыма, гэтым можна патлумачыць цікаўнасць да "Сфагнуму" — інтэлігентны чытач паглыбляецца ў свет, што існуе побач, нават трохі вабіць, але застаецца незразумелым, пужае, насцярожвае.

Вымярэнне беларускай рэальнасці, дзе пануе своеасаблівы сфагнум — у батаніцы так называюць спецыфічны від балотнага мху, што ўтварае торф, — стала асновай для кнігі. У рамане шмат мату, асабліва ў арыгінальнай, неперакладной версіі. Што паробіш — на ім "размаўляюць" героі Марціновіча. Дэкарацыі кнігі, як і самі героі, пазнавальныя і з-за гэтага яшчэ больш непрывабныя. Намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў **Алесь Пашкевіч** увогуле зазначыў, што *"ў рамане Віктара няма станоўчых герояў акрамя самога Віктара..."*

А вось літаратурны крытык **Андрэй Расінскі** не паскупіўся на пахвальныя параўнанні ў адрас аўтара. Прачытаўшы абедзве версіі рамана (адна, рускамоўная, напісана ўласна Марціновічам, другая перакладзена на мову **Віталем Рыжковым**), Расінскі з прыдыханнем казаў аб тым, што тэкст просіцца на экран. Спадара Віктара паставілі на адну палічку з **Гаем Рычы, Эмірам Кустурыцам** і **Квенцінам Таранціна**. Вядома, у пераносным значэнні...

Дарэчы, літаратуразнаўца Расінскі падмеціў жыццёвую інверсію "Сфагнуму". Першапачаткова Віктару прапанавалі напісаць сцэнарый для серыяла, але літаратар адмовіўся. Падобная гісторыя яднае Марціновіча з пісьменнікам **Нілам Гейманам**. Той спачатку стварыў сцэнарый, а потым распісаў яго ў цэлую кнігу. Так на свет з'явіўся містычны і прыгодніцкі раман "Никогде".

*"Я хацеў бы прасіць вас забыцца на падзелы*, — звярнуўся Віктар да аўдыторыі. — *Бо ў нас ёсць чытач, якога мы страцілі. І зараз нам трэба неяк яго вярнуць"*.

Заяўленне Марціновіча аб тым, што крытыкам не трэба пісаць блага пра беларускія раманы, некаторыя ўспрынялі амаль як капітуляцыю. Праўда, прасіў Марціновіч не за сябе, а агулам адзначыў, што хопіць ганіць сваё.

*"Лепш нічога не пішыце пра беларускую кнігу, якая вам не спадабалася, чым пішыце блага"*, — заклікаў бараніць сваё аўтар.

І нават такія спрэчныя словы публіка ўспрыняла з энтузіязмам. Дасталося на прэзентацыі іншым. Напрыклад, перакладчыку Віталю Рыжкову. Маўляў, яго намаганнямі *"з правакацыйнага твора зрабілі твор, які можна ўключаць у школьную праграму"*.

Прэзентацыя кнігі доўжылася амаль дзве гадзіны, і яшчэ гадзіну Марціновіч падпісваў чытачам свежанькае выданне. Некаторыя, што ўжо пазнаёміліся з кніжкай у інтэрнэце, пыталіся наконт працягу.

*"Калі мяне ў палон не возьмуць чачэнскія тэрарысты, пісаць працяг "Сфагнуму" я не буду"*, — усміхнуўся Віктар і дадаў, што *"зараз у яго галаве няма ніякіх ідэй"*.

Яшчэ адзін камплімент аўтару: усім жадаючым атрымаць аўтограф не хапіла кніжак. Пацвярджэнне таго, што Марціновіч усё ж такі модны пісьменнік: многія госці нясціпла фатаграфаваліся на фоне аўтара, каб потым выкласці "фотачкі" ў сацсеткі. Мусіць, Віця з Аўтаза гэта ўхваліў бы...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## ПРЭМ'ЕРА

# Анастасія Ціхановіч прадставіла свой новы кліп

*У відэа на песню "Проста" спявачка паўстае ў вобразе рамантычнай дзівы, якая на ўсё пойдзе дзеля кахання.*

Дачка знакамітых **Ядвігі Паплаўскай** і **Аляксандра Ціхановіча** Наста ў шоу-бізнесе з самага маленства. У апошнія гады яна ўсё больш займалася сур'ёзнымі праектамі, у тым ліку доўга і плённа працавала з камандай "Еўрабачання". А вось пра сольную кар'еру, падавалася, падзабылася.

Гэтым летам Анастасія выправіла несправядлівасць і прадставіла прыхільнікам і калегам сваю новую работу. Кліп на песню "Проста" здымаў малады, але даволі вядомы ў шоу-бізнесе рэжысёр **Аляксандр Гарадко**. Фабула ў стужцы даволі простая: ёсць каханне, ёсць пяшчота, але ў адзін зусім не прыгожы момант нешта ламаецца... Захаваць каханне ці разысціся? Даць сабе шанц ці шукаць шчасця з іншым чалавека? Адказы Наста раіць шукаць у сваім сэрцы.

І на відэа, і падчас прэзентацыі Анастасія выглядала проста цудоўна. Ёй вельмі пасуе яе сённяшні стан — спявачка скінула некалькі кілаграмаў і змяніла прычоску. На сваё свята Наста прыйшла ў цікавай белай сукенцы з чорным баа і выглядала адначасова стыльна і элегантна.

Прэзентацыя новага кліпа адбылася ў адным з модных сталічных клубаў, а павіншаваць спявачку прыйшлі многія калегі, у тым ліку **Аляксей Хлястоў**, **Іскуі Абалян**, **Вольга Плотнікава** і іншыя.

"*Наста, віншуем цябе! Дзякуй за прыемны вечар і за магчымасць добра адпачыць і пагутарыць!* — выказалася пасля свята ў сац.сетцы Вольга Плотнікава. — *Жадаю табе, каб твой новы кліп стаў чарговай прыступкай і даў табе яшчэ штуршок наперад!"*

З выхадам новага кліпа Насту павіншавала і ўдзельніца сёлетняга "Еўрабачання" **Алена Ланская**.

Сама Анастасія падзякавала ўсім за падтрымку і ў невялікім звароце прыгадала ўсіх, хто дапамагаў ёй працаваць над кліпам і песняй. І дадала інтрыгі...

*"Дзякуй табе!* — звярнулася Анастасія да таямнічай асобы, што натхніла яе на стварэнне кліпа. — *Без цябе гэтая песня і гэты кліп наўрад ці з'явіліся б. Калі сэрца кажа "так", словы могуць аказацца зусім не патрэбнымі"*.

Новы кліп на песню "Проста" можна пабачыць у інтэрнэце і на музычных каналах краіны.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**



## ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Як у нас будуюцца футбольныя стадыёны

*Апошнім часам у краіне, дзе ўжо працяглы час назіраецца бум будаўніцтва лядовых палацаў, узяліся і за футбольныя стадыёны.*

### На «Дынама» амаль «збрылі» брыль

Нагадаем, што ў лістападзе мінулага года Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу неадкладна пачаць рэканструкцыю мінскага "Дынама" і закончыць яе за два гады. Між тым сёння пакуль яшчэ толькі разбіраюць брыль.

— Пасля таго, як канчаткова закончаць з брылём, пачнецца дэмантаж асвятляльных мачт, — распавядае "Народнай Волі" дырэктар стадыёна "Дынама" **Юрый КРЫВАДУБСКІ**. — Але адразу скажу, што ў тэрміны будаўнікі не ўкладваюцца. Па праекце брыль павінны былі разабраць, здаецца, яшчэ ў сакавіку. Аднак і канструкцыі аказаліся складанымі, і надвор'е зімой не дазваляла займацца паўнавартаснымі работамі.

Па словах суразмоўцы, за лета перад будаўнікамі стаіць задача знесці мачты. Але ці паспеюць?

— Работа няпростая, — шчыра прызнаецца дырэктар. — Толькі каб кран паставіць, трэба каля месяца.

**— А за два гады рэальна правесці рэканструкцыю?**

— Вельмі складана. Калі зыходзіць з еўрапейскай практыкі, то аналагічныя стадыёны будуюцца каля трох гадоў. А ў нас фактычна праходзіць не рэканструкцыя, а будаўніцтва з нуля. Разабраць, пабудаваць... Да таго ж трэба яшчэ захаваць гісторыка-архітэктурны ансамбль.

**— Ці ёсць ужо поўны праект рэканструкцыі?**

— На жаль, не. Разумееце, якаснае праекціраванне не можа быць хуткім. Наколькі мне вядома, нямецкая кампанія прадставіла графік праекціравання, і ён даволі працяглы. Немцы — не навічкі ў гэтай справе, а таму ведаюць, як і што рабіць.

Нагадаем, што кошт рэканструкцыі стадыёна, калі зыходзіць з іншых праектаў нямецкай кампаніі GMP, можа быць не меншым за 120 мільёнаў еўра.



На сталічным "Дынама" ўсё толькі пачынаецца.

### У Барысаве стадыён можа адкрыцца ўжо гэтым летам

*Балельшчыкі барысаўскага БАТЭ ў чаканні. Не толькі новых перамог ад сваёй любімай каманды, але і адкрыцця новага стадыёна.*

Як паведамлялася, новая арэна ў Барысаве будзе адпавядаць усім патрабаванням УЕФА для правядзення матчаў міжнароднага ўзроўню. Пры яе ўзвядзенні "выкарыстоўваюцца самыя сучасныя тэхналогіі і матэрыялы, а яркае архітэктурнае вырашэнне зробіць новы стадыён сапраўдным упрыгажэннем горада".

Згодна з праектам, стадыён разлічаны на 13.087 глядацкіх месцаў. Ён будуецца паводле праекта славенскай кампаніі "Ofis arhitekti". Архітэктурная канцэпцыя стадыёна ўнікальная: іншага такога няма не толькі ў Еўропе, але і ў свеце. Тут будзе выкарыстоўвацца натуральнае пакрыццё з падагрэвам.

Зараз будаўніцтва падыходзіць да фінальнай стадыі — аздаблення. Плануецца, што арэну могуць здаць ужо гэтым летам.



Новы стадыён у Барысаве.

### Стадыён ФК «Мінск» каштуе каля 5,7 мільёна долараў

*Яшчэ адну арэну будуе ў сталіцы на вуліцы Маякоўскага футбольны клуб "Мінск".*

— Вельмі спадзяёмся, што да канца года будаўнікі ўсё ж такі завяршаць работу, — распавёў goals.by генеральны дырэктар "Мінска" **Ігар ШЛОЙДА**. — Прыблізны бюджэт усіх пабудоў — каля 50 мільярдаў рублёў (прыкладна 5,7 млн долараў). Палову гэтых сродкаў ужо выкарысталі, астатнія грошы для таго, каб закончыць аб'ект. Аднак, калі з'явяцца нейкія непрадбачаныя выдаткі, спатрэбіцца больш грошай... На стадыёне будзе сучаснае табло, асвятленне. На галоўнай трыбуне — каментатарская, месцы для інвалідаў. Дарэчы, яна будзе змяшчаць дзве тысячы чалавек. Чаму менавіта столькі? Рэгламент патрабаваў, каб каманда, якая выступае ў вышэйшай лізе, мела арэну не менш як на тры тысячы чалавек. З гэтага і зыходзілі.

**Алесь СІВЫ.**



Арэна ў Мінску на вул.Маякоўскага.

## НА ЗАМЕТКУ

# *Если вы едете в Украине, не забудьте вынуть марганцовку из аптечки*

Калия перманганат, больше известный в народе как марганцовка, включен в Украине в перечень наркотических средств, психотропных веществ и их прекурсоров.

Иными словами, ввоз марганцовки в эту страну запрещен и будет караться в уголовном порядке.

В связи с этим белорусам, планирующим поездку на территорию Украины, следует помнить: нарушение правил хранения и перевозки указанного вещества через границу украинскими правоохранительными органами может быть квалифицировано как преступление по соответствующим статьям Уголовного кодекса Украины, в том числе и как "контрабанда наркотических средств, психотропных веществ, их аналогов или прекурсоров".

Народная Воля http://www.nv-online.info 18 ЧЭРВЕНЯ 2013 г.

*Если верить пословице “Мужчина — голова, а женщина — шея”, то сильные мира сего во многом обязаны своим женам. История знает множество таких примеров: Хилари Клинтон помогала своему мужу прийти к власти, Жаклин Кеннеди повышала рейтинг супруга за счет своей привлекательности и популярности у американцев, а Раиса Горбачева была верной спутницей жизни президента СССР.*

*Вкусы у сильных мужчин бывают разные, а спутниц жизни они часто выбирают вовсе не по внешним качествам. Первой леди может стать и красавица вроде Жаклин Кеннеди, и обычная женщина вроде Нины Хрущевой. Словом, шанс есть у каждой.*

*Предлагаем топ-10 самых значимых современных первых леди, которые сыграли не последнюю роль в становлении своих мужей.*

# 10 первых леди: выдающиеся жены президентов

## США: Мишель Обама



Супруга 44-го президента Америки Барака Обамы Мишель — самая влиятельная первая леди мира, если верить рейтингу журнала Forbes. Миссис Обама дважды сыграла не последнюю роль в президентской кампании своего мужа. Она привлекает к себе внимание не только безупречным стилем и нарядами от лучших американских дизайнеров, но и активным участием в политической жизни. В стране, которая изобрела фастфуд, Мишель Обама пропагандирует здоровое питание. Первая леди постоянно призывает американцев употреблять в пищу больше овощей и заниматься спортом.

При этом Мишель Обама сама же следует своим советам — ухаживает за собственным огородом во дворе Белого дома и демонстрирует отличную спортивную подготовку, отжимаясь от пола прямо в эфире популярного в Америке ток-шоу “Эллен”. Особенный успех имел танец Мишель Обамы, ставший хитом в интернете. Она продемонстрировала не только отличную пластику, но и отсутствие комплексов. Наконец, Мишель Обама — единственная в истории США темнокожая первая леди, а это уже выделяет ее на фоне предшественниц.

## Франция: Валери Триервейлер



Гражданской жене президента Франции Франсуа Олланда Валери Триервейлер не так-то просто затмить свою знаменитую предшественницу — модель и певицу Карлу Бруни-Саркози. Впрочем, Валери и не стремится к такой популярности — ведь у нее есть другие сильные стороны. Успешная журналистка и мать троих детей встретила будущего президента в 2008 году. Долгое время пара скрывала свои отношения, но теперь, когда всем известно имя спутницы Франсуа Олланда, Валери Триервейлер не слишком спешит связать себя узами брака. Возможно, на свадьбу у нее просто нет времени. Первая леди Франции, по мнению экспертов, сыграла не последнюю роль в приходе Олланда к власти. Валери целый год посвятила руководству предвыборной кампанией, а на сегодняшний день считается чуть ли не главным советником президента — вот это настоящая “боевая подруга”!

## Азербайджан: Мехрибан Алиева

Мехрибан Алиева вышла замуж за будущего президента Азербайджана Ильхама Алиева, еще будучи студенткой Медицинского университета (который она, к слову, закончила с красным дипломом). Не исключено, что во многом благодаря этой женщине Алиев сделал столь успешную карьеру. В одном из интервью первая леди сказала: “Я двадцать лет прожила рядом с таким человеком, как Гейдар Алиев. Наша семья всегда была вместе, и мы были рядом с ним и в трудные для него годы, и в его счастливые мгновения”.



Мехрибан умеет успевать везде и сразу: она не только мать троих детей, но и видный общественный деятель — Посол доброй воли ООН и ЮНЕСКО, а также президент Фонда Гейдара Алиева. При этом первая леди Азербайджана всегда выглядит великолепно, благодаря утонченному вкусу и незаурядной внешности. В свои 48 лет она сохраняет точеную фигуру, а густым волосам супруги президента могла бы позавидовать любая красавица.

## Катар: Моза бинт Насер аль-Миснед



У лидера Катара шейха Хамада бен Калифа-аль-Тани есть три жены, но только одна из них выходит в свет и сопровождает мужа на важных политических мероприятиях — красавица Моза бинт Насер аль-Миснед. По всей видимости, именно ее шейх Хамад считает украшением своего государства. Согласитесь, не так-то сложно стать иконой стиля в Европе и Америке, но гораздо труднее сделать это в Азии, где законы ислама диктуют свои нормы поведения. Первая леди Катара умудряется выглядеть ослепительно в закрытых платьях и национальных головных уборах.

Кстати, шейха Моза не только невероятно привлекательная, но и очень образованная женщина. После учебы в Университете Катара она проходила стажировку в США. Моза — не просто красавица из восточного гарема, она видный политический и общественный деятель, имеющий ряд государственных должностей. Кстати, журналисты любят называть ее “арабской Грейс Келли”, что, согласитесь, вполне заслуженно.

## Великобритания: Саманта Кэмерон

У британцев уже есть своя любимица — герцогиня Кембриджская Кэтрин. Однако официально первой леди страны все же считается супруга премьер-министра Дэвида Кэмерона Саманта. Премьер Великобритании славится своей демократичностью — он покорил жителей страны тем, что ведет скромный образ жизни, не прочь прокатиться на метро или приехать на работу на велосипеде. В этом Саманта полностью поддерживает мужа.



Супруга Кэмерона не просто первая леди, но и талантливая бизнесвумен, которая может позволить себе любую одежду. Однако Саманта нередко появляется на публике в скромных туфлях от Zara, оставив “лубутены” более взыскательным модницам. При этом журнал Vogue уже назвал ее одной из самых стильных первых леди мира за умение выглядеть прекрасно в вещах демократичных марок. Простым избирателям это тоже нравится — британцы вряд ли были бы в восторге от слишком расточительной жены премьера.

## Сирия: Асма Асад



В отличие от многих первых леди, которые принимают активное участие в политике, Асма Асад предпочитает оставаться в стороне. Супруга сирийского правителя Башара Асада, хотя и имеет сирийские корни, на самом деле женщина вполне европейская. Она родилась и получила образование в Лондоне, работала в крупной финансовой компании в США, затем поехала в Сирию и вышла замуж за Башара Асада.

Традиционно супруга президента считается “либеральным лицом” в Сирии — она никогда не носит арабскую одежду, тем самым подчеркивая, что в стране царит свобода выбора. Сегодня Асма воспитывает троих детей, но изредка участвует и в политических делах. К примеру, недавно она снялась в пропагандистском ролике в поддержку своего мужа. Учитывая напряженную ситуацию и войну в Сирии, первая леди просто не может оставаться в стороне.

## Китай: Пэн Лиюань

Первая леди Китая, жена Си Цзиньпина, — очень неординарная личность. Во-первых, до Пэн ни одна из жен китайских правителей не была публичным лицом и не участвовала в официальных мероприятиях. Во-вторых, как и экс-первая леди Франции Карла Бруни, Пэн Лиюань успешно совмещает свои государственные обязанности с карьерой в шоу-бизнесе. В Китае ни один новогодний концерт не обходится без выступления первой леди! Заодно 50-летняя Пэн повышает популярность правящей четы, регулярно устраивая бесплатные выступления, — например, она частенько гастролирует по военным базам.



Китаянки стараются подражать Пэн Лиюань, копируя ее стиль. Стоит только первой леди появиться на публике в том или ином наряде, как с полок магазинов тут же исчезают похожие вещи. Однако одевается супруга главы государства довольно скромно, отдавая предпочтение вечной классике.

## Эстония: Эвелин Ильвес

Эвелин, первая леди Эстонии, встретила своего будущего мужа, когда он еще был министром иностранных дел. Первое время женщине приходилось непросто — отношения нужно было тщательно скрывать от прессы. При этом информация о том, что у пары завязался роман, все-таки просачивалась в СМИ, которые, как известно, в выражениях не стесняются. Так Эвелин достался обидный ярлык любовницы Ильвеса, которая в то же время руководит его предвыборной пиар-кампанией. Когда же Тоомас Ильвес наконец взял свою помощницу в жены, эстонские журналисты нашли другой повод для злословия — Эвелин постоянно критиковали за лишний вес и отсутствие вкуса.



В итоге первая леди взяла себя в руки — заметно похудела и стала внимательнее относиться к выбору нарядов (впрочем, промахи все равно случаются). А вот в большую политику Эвелин после замужества предпочитает не вмешиваться — ей больше нравится роль хранительницы домашнего очага.

## Грузия: Сандра Рулофс



Свою вторую половину, голландку Сандру Рулофс, президент Грузии Михаил Саакашвили встретил в Страсбурге, где она преподавала курс по правам человека. Тогда Саакашвили еще не был большим политиком, так что о браке по расчету в данном случае не может быть и речи. Тем не менее Сандра покинула Европу и вместе со своим супругом переехала в Тбилиси. Ради мужа Рулофс не только выучила достаточно сложный грузинский язык, но и приняла православие.

Ее смело можно назвать очень разносторонней личностью. Первая леди Грузии говорит на пяти языках (в том числе и по-русски), прекрасно играет на фортепиано и флейте, отлично разбирается в правовых делах и даже в медицине — не так давно она окончила курсы медсестер. Политику Сандра Рулофс тоже не обходит стороной, хотя и признается, что это лишь ее долг.

## Япония: Акиэ Абэ



Семья премьер-министра Японии Синзо Абэ — пожалуй, одна из самых закрытых в мире. Подробности личной жизни главы государства никогда не становились достоянием общественности. Тем не менее Акиэ Абэ, жена премьера, сделала попытку показать всему миру, что и у японцев все-таки есть первая леди.

Несколько раз Абэ делала довольно громкие заявления о том, что хочет развенчать консервативный образ Японии и доказать, что женщины этой страны тоже имеют право голоса. Даже японскому стилю одежды Абэ предпочитает европейский.

Акиэ регулярно появляется на различных мероприятиях и саммитах. И хотя первая леди Японии всегда сдержанна и безупречна, в обычной жизни у нее есть вполне земные и даже оригинальные увлечения. К примеру, Акиэ Абэ несколько лет работала диджеем на радио. А еще она очень любит танцевать фламенко, что, согласитесь, довольно экзотично для японки.

**ФАКТ**

## Больш за ўсіх балбочуць Насты і Максімы

*Незвычайнае даследаванне правёў мабільны аператар МТС. Яно дазволіла высветліць, людзі з якімі імёнамі карыстаюцца тэлефоннай сувяззю больш актыўна, чым іншыя.*

Рэйтынг самых актыўных карыстальнікаў галасавых паслуг ўзначалілі беларусы з імёнамі Настасся і Максім. Настассі здзяйсняюць у месяц каля 136 тэлефонных званкоў, Максімы — 133.

У дзясятку жаночых імён акрамя Настассі ўвайшлі Юлія (134 званкі ў месяц), Кацярына (129), Аксана (124), Марына (123), Іна (122), Вольга (119), Наталля (117), Ірына (112) і Таццяна (103).

У рэйтынгу самых “гаваркіх” мужчынскіх імён кампанію Максіму склалі Дзяніс (132 званкі ў месяц), Зміцер (121), Віталь (119), Яўген (115), Павел (113), Андрэй (110), Аляксей (106), Ігар (104) і Сяргей (100).

Дарэчы, раней аператар МТС устанавіў, што жанчыны больш часу трацяць на размовы па мабільным тэлефоне. Прадстаўніцы слабага полу выкарыстоўваюць на 13% больш галасавога трафіку і адпраўляюць на 26% больш СМС у параўнанні з мужчынамі.

**ЛЮДЗІ І ДРЭВЫ**

## Сасна

*Здавён гэта дрэва ў беларусаў лічылася амаль што свяшчэнным. З ліпы і сасны бацькі рабілі для сваіх немаўлят калыскі. (У мяне да гэтага часу на гарышчы стаіць зробленая мясцовым умельцам калыска, з якой вырастала мая старэйшая дачка — ужо нябожчыца — Надзея.)*

З сасновых бярвенняў вяскоўцы складвалі зрубы. Некалі паэт Андрэй Александровіч чытаў:

*Эх, сасонніца-сасна!*
*Дні суровыя.*
*Бервяно да бервяна —*
*Хата новая.*

На сасновых ствалах леснікі рабілі надрэзы, каб з цягам часу бурштынавая смала — кропля за кропляй — сцякала ў падстаўленую пасудзіну. Хто ведае: можа, некалі таленавіты скрыпач працягне некалькі разоў празрыстай каніфоллю па нацягнутых струнах смычка, і, як некалі пісаў іншы паэт, — Васіль Вітка — узрушыць слых тысяч людзей.

Мусіць, так заведзена ў прыродзе. Буслы любяць сяліцца не толькі на саламяных стрэхах, што раней былі амаль ва ўсіх вёсках, а і на зламаных вяршынях стромкіх сосен.

Урэшце сасна, можна сказаць, праводзіла чалавека і ў яго апошні шлях. Звычайна з сасновых дошак людзі збівалі дамавіны для нябожчыкаў. Праўда, у наш цывілізаваны век гэтага ўжо амаль не робяць. Працей заказаць на любы густ (абы твае грошы), каб апошні “дамок” для нябожчыка змайстравалі ледзь не з чырвонага дрэва.

Што ж, няхай расце, раскашуе на нашых прасторах і сасна, і яліна! Няхай яе прыемны пах прыходзіць да кожнага з нас у кватэру кожны Новы год!

Расці, сасонніца-сасна!

## Асіна

*З гэтым дрэвам людзі звязваюць нават нейкія таямнічыя знакі. Можа, таму, што пры ледзь адчувальным павеве ветрыка ў асіны пачынаюць трывожна дрыжаць лісточкі. Ды і нездарма ў народзе здавён бытуе параўнанне “горкі, як асіна”. (Гэта — калі на смак мы пачынаем моршчыцца і нават адплёўвацца.)*

Некалі беларускі класік пісаў пра адшчапенцаў (няважна — пра якіх): “Мала іх павесіць на сухой асіне, бо і тая асіна ад сябе адкіне”.

Адзін мой знаёмы, каб паказаць нікчэмнасць чалавека, звычайна казаў: “Каб табе вечна насіць кірзовыя боты з халявамі ад асінавай кары...”

Цяжка, вядома, аспрэчваць падобныя ісціны. Але варта зазначыць, што ў нялёгкія пасляваенныя гады людзі ўзводзілі хаты з абчасаных асінавых бярвенняў. Памятаю, як дапамагаў цесцю будаваць хату на Лоеўшчыне. Бярвенні прывозілі (на каровах!) з бліжэйшага лесу. Толькі адзін вянок з дубу пусцілі на зруб. Астатняе талакой рабілі, і дзякуй Богу! — стаіць яшчэ тая хата з асіны ў вёсцы Багатая Града. І не ведаю, колькі яшчэ прастаіць, калі не зруйнуюць яе бульдозерам. (Цяпер неперспектыўныя вёскі — як суседнія Грамыкі — прысыпалі зямлёй, нават праз некалькі гадоў ніхто і назвы не ўспомніць.)

Так што і асіна служыць спраўна чалавеку, калі, вядома, толькі ён да яе адносіцца па-людску.

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**

**УВАГА!**

## Гады...

*З красавіка па чэрвень ад укусаў гадзюк пацярпелі пяць жыхароў сталіцы.*

Пра гэта паведаміў загадчык таксікалагічнага аддзялення Бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі **Андрэй Богдан.**

Паводле яго слоў, сустрэчы з атрутнымі змеямі адбыліся ў лясах на тэрыторыі Мінскай вобласці. На дадзены момант усе пацыенты пасля лячэння выпісаны.

Медыкі нагадваюць: пры ўкусе змяі трэба выціснуць або адсмактаць з ранкі яд, зафіксаваць пашкоджаную канечнасць, даць чалавеку шмат пітва і як мага хутчэй даставіць пацярпелага ў бальніцу.

Каб пазбегнуць ўкусу змяі, выконвайце некалькі простых правіл:

— Пры паходзе ў лес або на вадаём апранайце гумовыя боты.

— Узірайцеся ў траву, асабліва на сонечных участках, дзе любяць грэцца гадзюкі.

— Пры сустрэчы са змяёй не рабіце рэзкіх рухаў.

Таксама ўрачы раяць не чапаць мёртвых змей, паколькі яд доўга захоўвае таксічныя якасці.

**КНІЖНАЯ ПАЛІЦА**

## Беларусы «Вялікага брата» не баяцца?

Пасля скандалаў, звязаных са зборам спецслужбамі асабістых даных грамадзян, амерыканцы сталі з цікавасцю чытаць раман Джорджа Оруэла “1984”. А вось беларусы нічога новага для сябе ў гэтым творы не знайшлі.

Ажыятажны попыт на знакамітую кнігу брытанскага аўтара пачаўся пасля таго, як The Washington Post паведаміла, што ў Агенцтва нацыянальнай бяспекі і ФБР ёсць доступ да асабістых даных людзей у інтэрнэце. На сусветна вядомым партале Amazon адно з выданняў “1984” за суткі перамясцілася ў рэйтынгу продажу адразу на дзесяць тысяч пазіцый уверх і ўвайшло ў сотню самых папулярных.

У звычайных кнігарнях ЗША таксама адзначаецца рост попыту на гэты раман.

А вось у Беларусі ажыятажнага попыту на раман знакамітага антыўтапіста не здарылася нават пасля скандальных публікацый аб амерыканскай разведцы.

У буйнейшай беларускай кніжнай інтэрнэт-краме oz.by можна набыць адразу некалькі варыянтаў кнігі “1984”, ёсць нават англamoўнае выданне. Кошты пачынаюцца з 62 тысяч рублёў і даходзяць да 173 тысяч. Нягледзячы на добрыя водгукі аб рамане, у топе самых набываемых яго няма. У звычайных кніжных крамах твор таксама надзвычайнай папулярнасцю не карыстаецца. У краме на вуліцы Карла Маркса “Народнай Волі” паведамілі, што ў апошні час ніхто асаблівай цікавасці да рамана не выказваў.

“*У верасні часцей пытаюцца, бо раман уваходзіць ва ўніверсітэцкую праграму вывучэння літаратуры*”, — паведаміла прадаўшчыца.

Як высветлілася, куды больш народ цікавіць новая кніга Віктара Марціновіча “Сфагнум”, але яе працей спампаваць у інтэрнэце, чым знайсці ў беларускіх кніжных крамах.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 13047

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.06.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27500 экз. Заказ №2482.